Народная газета

***Ніл ГІЛЕВІЧ***

## Вы не хвалюйцеся

Вы, зладзюганы і рабаўнікі,
Што абабралі чэсны люд да ніткі,
Вы, мафіёзнікі, што ў дзве рукі
Грабеце ў сейф пірацкія прыбыткі,
Вы, па чыёй віне паўсюль і спрэс
Стаў жабраком народ, душою чысты, —
Вы не хвалюйцеся: у рэшце рэшт
За ўсё адкажуць... "нацыяналісты".

**9.12.94**

## Туды і назад

Туды мы едзем беларусамі
І не сказаць, каб заскарузлымі,
І не сказаць — адно фармальнымі,
А і па сутнасці нармальнымі.

Назад жа едзем усялякімі:
Адны — заўзятымі палякамі,
Другія — немцамі, галандцамі,
Або наскрозь амерыканцамі,
А найчасцей за ўсё — крыўлякамі,
На свой Народ і Край плявакамі.

**15.12.94**

## "Асветнік"

*"Беларусізацыя школы — шлях да суверэннага невуцтва"*
**"Асветнік" з Віцебска**

"Суверэнныя невукі" — немцы
Родным словам пацвердзіць змаглі,
Што яны ўсіх эпох спадкаемцы
І ўсіх чыста навук на зямлі.

"Суверэнныя невукі" — фіны
(Хоць іх "жменька", сказаў бы паэт)
Родным словам да роднай краіны
Далучылі агромністы свет.

"Суверэнныя невукі" — грэкі,
Родным словам прарослы з глыбінь,
Прапісаліся ў свеце навекі —
І жыццём вунь жывуць неблагім.

Ну, а мы — калі толькі абудзім
Слова роднае ў кожнай душы, —
Дык на невуцтва край наш асудзім,
Счахнем-спрахнем у дзікай глушы.

О, асветнік! Каб гэткім нятленным
Азарыць чалавецтва святлом —
Не канечна быць суверэнным,
Можна быць і залежным... хамлом.

**7.03.94**

## Кінапаскудства

Кінапаскудства так абрыдла,
Што ўжо і сіл няма цярпець.
"Ператварыць народ у быдла!" —
Заданне даў галоўны спец.

Разлік засвоены, як догма:
"На быдла досыць бізуна
Ды ражкі пойла, каб не здохла
За плугам з рання да цямна.

Яго мы пойлам забяспечым:
Пахлебча ў хлеве-шалашы —
І аб жыцці аб чалавечым
Зусім забудзе, без душы.

Нашто душа яму, навошта —
На малацьбе ды на касьбе?
А рай зямны ягоным коштам
Мы забяспечым для сябе".

О дзе ты, суд высокі боскі!
Як выйшла гэтак, што ў кіно
Артысты — дзеці нашай вёскі —
Са спецам-д'яблам заадно?

**25.12.94**

## Хвала харобрым!

Панок, што ў нашы дні (хвала харобрым!)
Як дысідэнт падаўся на чужыну,
Прылюдна збэсціў крык душы збалелай,
Што даляцеў здаля, з шасцідзесятых.

Шасцідзесятыя... Я помню, помню,
Як прыбягаў дадому з горкім плачам
Малы мой сын: "Там хлопчыкі ў двары
Б'юць кулакамі ў твар мяне за тое,
Што я па-беларуску гавару!.."

Ён мне крычаў з такою крыўдай гэта
І так глядзеў праз слёзы на мяне,
Як быццам я ва ўсім быў вінаваты.

Я суцяшаў, як мог, малога сына,
Як мог, дзікунства хлапчукоў тлумачыў,
А на душы ў самога закіпала
Святая лютасць: "Ну, чакайце, злыдні,
Правадыры шчаслівай Беларусі,
Манкуртаў хросныя бацькі! Яшчэ вам
Гісторыя належнае аддасць!.."

Мой гнеў прарос са слёз майго дзіцяці.
І страшна мне было за лёс ягоны.
Але да ганьбы, ведаў я, не дойдзе:
Бацькоўскай мовы не зрачэцца сын!

Табе, панок, не зразумець тых слёз,
Хоць і равеснік ты майму нашчадку:
Яшчэ з калыскі вызвалены быў ты
"От грубого, простого языка".

Панок!.. А ты, часам, не быў, прабач,
У тым двары і разам з хлапчукамі
Маё дзіця за мову не грумячыў?
Чаго ж бо так узяў цябе за рэбры
Мой успамін пра той дзіцячы плач?

**12.03.94**

## Неапублікаваны пастскрыптум да апублікаванага

Як вы даведаліся са шматлікіх
Маіх артыкулаў і інтэрв'ю,
Я ўсё жыццё пакутнік быў вялікі
За прынцыповасць творчую маю.

О, як кастрыраваў мае раманы,
Апавяданні, п'есы Галаўліт!
А як мяздрылі ў прэсе "бусурманы"!
А як партыйны тоўк мяне сінкліт!

Партыйцы гналіся за мной наўзавад,
Публічна грызлі, елі спадцішка.
Так зненавідзелі, што ўрэшце нават
Аднагалосна... выбралі ў ЦК!

**23.12.94**

**ПРЕСТИЖНО, СТАБИЛЬНО, ДОХОДНО**

**АКЦИИ АО "АНДРЕЙ КЛИМОВ и К" ЭТО:**

# надежная защита от обвального падения уровня жизни;

# гарантия сохранности денежных средств;

# Ваши средства вкладываются в строительство жилых домов повышенной комфортности, а также в высокорентабельную отечественную промышленность;

# предусматривается лотерея по розыгрышу квартир в строящихся домах.

**АКЦИИ АО "АНДРЕЙ КЛИМОВ и К" КАЖДОЙ СЕМЬЕ**

г. Минск, ул. Чапаева, д.5, к. 423
тел. 364-345
с 10 до 13 - 14 до 17
кроме субботы, воскресенья

**ВЕБАСТО**

с установкой
и гарантией 1 год

**550 $**

Тел./факс (0172)
265-156.

## СИФ "Лесная промышленность"

**сообщает о проведении открытой подписки на акции второго выпуска открытого акционерного общества "Специализированный инвестиционный фонд, аккумулирующий именные приватизационные чеки "Имущество" — "Лесная промышленность".**

### 1. Данные о фонде

Фонд создан в целях содействия развитию рынка ценных бумаг, процессу разгосударствления и приватизации государственной собственности. Фонд осуществляет выпуск своих акций и обменивает их на денежные средства граждан и юридических лиц, а также на именные приватизационные чеки "Имущество" с целью осуществления инвестиционной деятельности.

| Учредители фонда | Количество приобретенных ими акций |
|---|---|
| Государственное предприятие "Гослеспром" 220600, г.Минск, ул.К.Маркса, 16 | 24000 |
| Коллективное объединение "Пинскдрев" 225710, Брестская обл., г.Пинск, ул.Чуклая, 1 | 16000 |
| Акционерно-коммерческий банк "Дукат" филиал "Велес" 220600, г.Минск, ул.К.Маркса, 16 | 6000 |
| Производственное мебельное объединение "Минскмебель" 220123, г.Минск, ул.В.Хоружей, 25 | 2000 |
| Акционерное общество "Витебскмебель" 210004, г.Витебск, ул.Академика Павлова, 48 | 600 |
| Акционерное общество "Житковичлес" 247960, Гомельская обл., г.Житковичи, ул.К.Маркса, 80 | 2000 |
| Производственное лесозаготовительное объединение "Витебсклес" 210013, г.Витебск, ул.Ленинградская, 119а | 2000 |
| Акционерное общество "Пуховичская картонная фабрика" 222818, Минская обл. Пуховичский р-н, п/о Светлый бор | 2000 |
| Акционерное общество "Светлогорский целлюлозно-картонный комбинат" 247400, Гомельская обл., г.Светлогорск, ул.Заводская, 1 | 8000 |
| Акционерное общество "Лунинецлес" 225650, Брестская обл., г.Лунинец, ул.Советская, 37 | 2000 |
| Арендное лесозаготовительное объединение "Полоцклес" 211412, Витебская обл., г.Полоцк-ГСП, промузел Ксты | 4000 |
| Народное производственное объединение "Бобруйскмебель" 213805, г.Бобруйск, ул.Ново-Шоссейная, 2 | 8000 |
| Коллективное предприятие "Калинковичская мебельная фабрика" 247710, Гомельская обл., г.Калинковичи, ул.К.Маркса, 30 | 2000 |
| Акционерное общество "Гродненская мебельная фабрика" 230000, г.Гродно, ул.Герасимовича, 1 | 2000 |
| Арендное производственное объединение "Мозырьдрев" 247760, Гомельская обл., г.Мозырь, ул.Социалистическая, 120 | 16000 |
| Минское научно-производственное мебельное объединение "Минскпроектмебель" 220705, ул.Кальварийская, 33 | 800 |
| Червенский арендный леспромхоз 223210, Минская обл., г.Червень, ул. Советская, 47 | 2000 |
| Акционерное общество "Гомельобои" 246021, г.Гомель, ул.Севастопольская, 45 | 6000 |
| Богушевская арендная мебельная фабрика 211510, Витебская обл., Сенненский р-н, г.п. Богушевск, ул.Володарского, 23 | 200 |
| Страховое общество "БелАквико" 225710, г.Пинск, ул.Брестская, 48 | 8000 |

### 2. Сведения о предстоящем выпуске ценных бумаг

Открытое акционерное общество "Специализированный инвестиционный фонд, аккумулирующий именные приватизационные чеки "Имущество", "Лесная промышленность" объявляет открытую подписку на 400 000 (четыреста тысяч) простых именных акций.

**НОМИНАЛЬНАЯ СТОИМОСТЬ ОДНОЙ АКЦИИ 2500 РУБЛЕЙ.**

Размер объявленного уставного капитала фонда составляет 1 358 860 000 (один миллиард триста пятьдесят восемь миллионов восемьсот шестьдесят тысяч рублей). Планируемая сумма эмиссии — 1 000 000 000 (один миллиард) рублей. Средства, собранные в ходе подписки, будут направлены в уставный капитал фонда и использованы для достижения целей его деятельности.

Подписка на акции будет производиться в течение трех месяцев с момента опубликования настоящего сообщения с 9.00 до 16.00, кроме субботы и воскресенья, по адресу: г.Минск, ул.К.Маркса, 16, к.34.

Подписка на акции производится путем заключения договора подписки на акции. В случаях, предусмотренных законодательством, при заключении договора подписчик представляет декларации об источниках происхождения средств и справку финансовых органов, подтверждающие законность происхождения средств, вносимых в счет оплаты акций.

Подписчик производит взносы на счет: чеками — на Специальный чековый счет 030000708 в Ленинском отделении N 16 Сбербанка г.Минска, код 606, денежными средствами — на расчетный счет 1467372 в филиале "Велес" АКБ "Дукат", код 790.

***В случае принятия решения об отказе от выпуска акций средства, собранные в ходе подписки, возвращаются подписчикам в срок не позднее 15 дней с момента принятия такого решения.***

В случае превышения или недостижения объявленного уставного капитала собрание акционеров фонда вправе утвердить фактические результаты подписки.

Более подробно с проспектом эмиссии можно ознакомиться по месту проведения подписки.

**Тел. в Минске: 27-55-48, 27-26-24.**

Калі б не бачыў, не паверыў бы...

# Сталін яму сказаў: перахітры маю варту — тады паверу

**У свеце шмат неверагодных з'яў. Сярод іх — незвычайныя здольнасці асобных людзей. Раскажу пра тое, сведкам чаго быў сам**

Здаецца, у 1955 годзе па нашым студэнцкім інтэрнаце пайшла пагалоска пра чалавека, які адгадвае думкі людзей на адлегласці. І пабачыць яго вельмі проста: варта толькі купіць білет у Мінскі Дом афіцэраў. Я так і зрабіў.

Месца маё было, вядома, на галёрцы. Але і да сённяшняга дня не шкадую, што сядзеў менавіта там: зверху было вельмі добра відаць. На сцэну выйшаў чалавек гадоў пад пяцьдзесят. Крыху ссутулены. Хударлявы. З сівой галавой, прадаўгаватым тварам.

Як цяпер бачу ярка асветленую сцэну і яго ў гэтым яркім святле — чалавека, які хваляваў свет сваімі незвычайнымі здольнасцямі. А тады зала, затаіўшы дыханне, сачыла за кожным яго рухам.

"Памочнікаў" ён браў з залы. Вось выйшаў мужчына. Вольф Месінг гаворыць яму:

— Вы будзеце думаць, што я павінен зрабіць.

Мужчына згодна ківае галавой. І думае. Месінг падыходзіць да яго, робіць тое, што мужчына загадваў яму моўчкі, у думках. Тады Месінг кажа зале:

— Магчыма, вы думаеце, што ён падстаўны? Калі ласка, няхай хто з гледачоў напіша на паперы заданне мне, пакіне яго свайму суседу ці суседцы, сам выйдзе на сцэну і моўчкі загадвае тое, што напісаў.

Выходзіць другі мужчына. Месінг стаіць ад яго крокаў за дзесяць. Тлумачыць:

— Загадвайце. Толькі кожнае чарговае заданне прадумвайце пасля таго, як я выканаю папярэдняе.

Мужчына падумаў. Месінг набліжаецца да яго, вымае з яго левай кішэні пачак папярос. Адыходзіць, адлічвае трэцюю папяросу, бярэ яе ў губы. Глядзіць на мужчыну, падыходзіць да яго, вымае з той жа кішэні пачак запалак, адыходзіць, адлічвае нейкую там (здаецца, дзевятую) запалку, прыкурвае... Тады пускае дым трыма колцамі. Падаюць з залы паперку, на якой было запісана заданне. Месінг чытае. Ён усё выканаў дакладна. Дружныя апладысменты.

Такіх заданняў было нямала. І кожнае ўсё больш складанае. Гледачы вывелі Месінга і яго памочнікаў за кулісы. Потым параіліся, што зрабіць. Адзін глядач у гэты час дастаў свой грабянец і схаваў пад дыван на падлозе. І вось з'явіўся Месінг. Ён асцярожна сышоў па прыступках, павёў позіркам па радах і паволі пайшоў да сярэдняга рада. То адыходзіў ад чалавека, то падыходзіў. Шукаў грабеньчык у пінжаку, потым разуў яго, агледзеў туфлі. Не, не тое. І ўсё ж знайшоў. Адгарнуў дыван і з-пад яго дастаў грабеньчык, колькі разоў правёў ім па сваёй галаве.

У час прадстаўлення Месінг тое-сёе расказваў пра сябе, пра сваё жыццё. У прыватнасці, пра тое, што ў час вайны выконваў спецыяльныя заданні. Тады, у сярэдзіне пяцідзесятых гадоў, безумоўна, ён не мог сказаць, якія гэта былі заданні.

Вольф Месінг запомніўся мне назаўсёды. Гэты чалавек не даваў мне спакою, хацелася больш даведацца пра яго, разгадаць, адкуль у яго такія фенаменальныя здольнасці. Нарэшце ў часопісе "Наука и жизнь" трапіў на аповед Месінга пра сябе.

Пра свае звышнатуральныя магчымасці ён даведаўся выпадкова — у чыгуначным вагоне. Ён, падлетак, ехаў без білета, а тут паявіліся кантралёры. Хлопчыку так захацелася пазбавіцца іх кары, што ён узяў з кішэні звычайны кавалачак паперы і падаў ім. Кандуктар прабіў білет кампосцерам і пайшоў. Вольфа гэта вельмі здзівіла і прымусіла задумацца, паспрабаваць сябе яшчэ.

Чуткі пра яго талент дайшлі да дырэктара цырка. Той як след паэксплуатаваў хлопца. Затое Вольф аб'ехаў паўсвету.

Пачалася вайна. Вольф апынуўся ў Польшчы, акупіраванай гітлераўцамі. Яго затрымалі (як яўрэя), пасадзілі ў зямлянку, прыставіўшы каля дзвярэй вартавога са зброяй. Месінг скарыстаў свае магчымасці, прайшоў міма фашыста. Паблукаўшы, перайшоў граніцу і падаўся ў Брэст.

Пасля вайны працаваў у культасветустановах, удзельнічаў у выступленнях самадзейных артыстаў.

Аднойчы ноччу да яго "завіталі". Загадалі неадкладна збірацца. Завезлі ў Мінск, да першага сакратара ЦК КПБ П.Панамарэнкі, адтуль — у Маскву. Пасялілі ў гасцініцы. Неўзабаве завезлі ў Крэмль, да самога Сталіна. Іосіф Вісарыёнавіч, недаверлівы ад нараджэння, загадаў:

— Прайдзіце скрозь маю крамлёўскую варту, выйдзіце з Крамля. Калі гэта ўдасца, зайдзіце ў ашчадную касу і, як у тым чыгуначным вагоне, атрымайце па звычайнай паперцы сто тысяч рублёў. Тады паверу, што вы ўсё можаце.

Месінг усё зрабіў. Прайшоў міма варты, у ашчаднай касе па кавалачку чыстай паперы атрымаў сто тысяч. Праўда, сталінскі эксперымент каштаваў касіру дорага: у яго здарыўся інфаркт, калі ўбачыў, па якому дакументу выдаў грошы.

З Месінга ўзялі распіску, што ён не будзе злоўжываць сваімі здольнасцямі. Ён і не злоўжываў. Жыў як звычайны чалавек. Выступаў перад людзьмі.

А вось у час вайны... Давайце расшыфруем яго спецыяльныя заданні. Я іх бачу так. Савецкі генерал дапытвае, скажам, нямецкага фельдмаршала Паўлюса. Прысутнічае сціплы цывільны з блакнотам, нешта там занатоўвае. Генерал пытаецца. Фельдмаршал адказвае, не спяшаецца, нешта думае: не хоча выкрываць ваенную тайну. Ён, фельдмаршал, проста думае пра тое, што ведае, ну, напрыклад, пра план нейкай аперацыі, пра войскі, якія ў ёй павінны былі ўдзельнічаць. Думае сабе. А Месінг... запісвае. Пасля гэтага Паўлюс няхай гаворыць што хоча. Справа зроблена. Звесткі здабытыя. А колькі такіх допытаў было ў прысутнасці Месінга!

# Завяжыце мне вочы...

Пра яе, Розу Куляшову, я сёе-тое чуў. Ды не дужа верыў у яе цуды. Нарэшце абставіны звялі мяне з ёй.

Працаваў я тады ў Беларускім тэлеграфным агенцтве, быў старшынёй прафсаюзнага камітэта. Перыядычна наладжвалі мы сустрэчы з цікавымі і знакамітымі людзьмі. Калі прыехала ў Мінск на Міжнародны сімпозіум урачоў Куляшова, мы запрасілі яе на сустрэчу з калектывам БелТА.

Тое, што яна дэманстравала, было неверагодным. Папрасіла:

— Завяжыце мне вочы, дайце любую газету — я буду чытаць пальцамі.

Падалі нейкую падшыўку. Роза, якой да гэтага завязалі вочы, пабегла пальцамі па газеце, сказала, як яна называецца, прачытала некалькі загалоўкаў, крыху тэксту.

Далі газету на замежнай мове. Яна, павёўшы па старонцы пальцамі, сказала:

— Я замежных моў не ведаю, таму перакласці не магу. Магу прачытаць літары.

Яна даволі дакладна прачытала (пальцамі) літары загалоўка.

Вядома, усіх цікавіла, хто яна, адкуль, як пазнала свае здольнасці. Вось сутнасць яе расповеду.

Нарадзілася за Масквой. У час вайны дзяўчынка трапіла ў бальніцу. Было гэта ў пачатку 1942 года. Святла ўвечары не запальвалі, бо баяліся налёту нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў. Было ў цемры сумна і нудна. Роза ўзяла кнігу, стала гладзіць яе і — о, цуд! — пачала бачыць, што напісана, пачала чытаць. І так з вечара ў вечар.

Пра гэта даведаўся галоўны ўрач, пазваніў у Маскву. Адтуль прыехалі спецыялісты, забралі дзяўчыну ў сталіцу, пачалі даследаваць яе здольнасці.

Нам Роза паказала ўсё, што ўмее. Параіла:

— Рабіце ў зале, што хочаце, стаўце, што і як хочаце, а я буду бачыць рукамі, раскажу, дзе і што.

Завялі Розу на сцэну. Праход да сцэны ў зале заставілі крэсламі, наставілі ўсяго, што маглі: бутэлек, старых крэслаў, падшывак... Выйшла Куляшова (вядома, з завязанымі вачыма), трымаючы перад сабой рукі, паволі водзячы то левай, то правай. І пачала гаварыць, што перад ёю: вось тут крэсла без падлакотніка, тут бутэлька з-пад віна, тут падшыўка "Правды"...

Перапала і мне зведаць на сабе яе здольнасці. Адзін супрацоўнік, думаючы, што Роза неяк падглядвае праз чорную павязку на вачах, стаў за Куляшовай і так "прыклаўся" да павязкі сваімі моцнымі рукамі, што Роза войкнула. Потым сказала:

— Паклічце на сцэну свайго сябра.

Той махнуў мне рукой:

— Коля, давай сюды!

Выходжу. Ён не зняў сваіх рук з шырокай чорнай стужкі на яе вачах. Куляшова, натуральна, не бачыла, хто прыйшоў, які ён на знешні выгляд. Аднак, павёўшы перада мною рукамі, гаварыла:

— У вас пад кашуляй белая майка, блакітныя трусы...

Пачуўся смех. Яна працягвала:

— У вас добрая жонка, бо ўсё чысценькае.

Нашы белтаўскія жанчыны тут жа змікіцілі:

— Скажыце, Роза, вы можаце ўбачыць, каго народзіць цяжарная жанчына?

— Магу, — адказала Куляшова. — Калі ласка, каму трэба, падыдзіце да мяне пасля гэтай сустрэчы.

Было некалькі цяжарных. Яны пасля падышлі да Куляшовай. Тая, зноў жа пальцамі павадзіўшы каля жыватоў, сказала, у якой будзе хлопчык, а ў якой — дзяўчынка. Усё так потым і аказалася.

❑

Аб чым сведчаць падобныя выпадкі? Аб невычэрпных магчымасцях чалавека. Вось толькі як іх разбудзіць?..

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

# БУДЬ ХОЗЯИНОМ

ВАШ ДОМ, САД, ОГОРОД

## Очень вкусные ягоды... на магнитах

Как-то в восьмидесятых годах в литературе я прочитал, что растения реагируют на магнитное поле. До конца механизм воздействия не выяснен. И я решил провести опыт с лесной земляникой.

Чтобы сходить в лес, времени у меня не было. В мае 1984 г. я нашел на откосе железной дороги несколько очень слабых кустиков, обработанных каким-то сильнодействующим гербицидом. Вид у них был очень угнетенный.

Восемь кустиков посадил 30х30 см на круглые магниты от динамиков. Саженцы прижились, отросли. И весной 1985 г. появилось огромное количество цветоносов (для примера — в лесу их не больше 2 штук на кустике).

1 июля собрал 115 чрезвычайно сладких, ароматных и спелых ягод, вес каждой — больше 1 г. Всего за две недели собрал 1120 ягод общим весом 805 г — и это с 8 кустиков!

Конечно, урожай намного ниже, чем у садовой земляники, но ведь это лесная ягода — намного целебнее, вкуснее и ароматнее. Можно в лесу отобрать кустики с более крупными ягодами, тогда и урожай будет в 2—3 раза больше.

Никаких удобрений не вносил. Кустики дали большое количество розеток, от которых в следующем году получил неплохой урожай. А через год — еще больший, чем в 1985 г. Результат я уже не учитывал.

В 1995 г. испытаю магниты на многих растениях. Особенно меня интересуют ремонтантные крупноплодные сорта земляники — может, этот опыт поможет мне быстрее их размножить.

На вырождающейся малине, которой было уже больше 10 лет, магниты дали очень хороший результат. Расположил я их только возле металлических опор шпалеры. Рядом кусты дали мощные побеги и хорошо плодоносили. А в других местах урожай намного ниже и ягоды мельче.

**Стефан НЕДЯЛКОВ.**

*г.Новополоцк.*

## Не стучи дверью!

❑ Чтобы дверь не скрипела, нужно положить маленький кусочек графита в щель приподнятой петли. А можно и проще: смазать петли вазелином.

❑ Деформированная дверь, как правило, плотно не закрывается (отходит). Кусок резиновой трубки подходящего диаметра, укрепленный на косяке двери, служит отличнейшим замком-защелкой. Трубка пружинит и поэтому надежно удерживает дверь. Истирается она гораздо меньше, чем кусок резины или любого другого материала.

❑ Если кусок кожи, набитый на дверной косяк, истерся и перестал удерживать дверь, покройте поверхность кожи тонким слоем масляной краски, и дверь снова будет плотно закрываться.

## Берегите себя от... соли

***Уважаемая редакция!***
***Мой муж подсаливает практически все, что ест, а у него гипертония. Подскажите, можно ли и как готовить пищу с малым содержанием соли.***
***Заранее благодарна.***

**Ирина К.**

*Лепель.*

Вываривание из пищи естественных минеральных солей, а затем добавление поваренной соли — распространенная беда. Ведь за сутки из организма зрелого человека с полусидячим образом жизни выводится не более 6—8 г поваренной соли. У нас же люди употребляют до 10, в сельской местности — до 15 г соли в сутки, подсаливая почти все. Мало кто задумывается, что в готовых продуктах питания уже есть дневная норма соли: в хлебе, майонезе, колбасе, сыре, консервах и проч. А избыток поваренной соли ведет не только к артериальной гипертонии, скрытыми формами которой страдает седьмая часть взрослого населения, но и к раку, бронхиальной астме, остеохондрозу позвоночника, ишемической болезни сердца. Установлена прямая связь между солевым аппетитом и повышенным давлением.

Выход есть только один — приготавливать пищу, сохраняя минеральные соли, — не вываривая их в кипящую воду. Идеальным помощником хозяйки в этом будет посуда фирмы ЦЕПТЕР. Овощи, мясо, рыба варятся в ней без воды и без соли, сохраняя не только все полезное, но и превосходный натуральный вкус без подсаливания (не досаливаем же мы сырой перец или помидор, если едим их прямо с грядки). Чтобы убедиться в этом на практике, можно заказать к себе домой **бесплатную** презентацию названной посуды по тел. 37-55-51.

Дело в том, что стенки и крышка посуды ЦЕПТЕР сконструированы таким образом, что внутри кастрюли образуется круговорот влажного горячего воздуха при удивительно плотном прилегании крышки за счет образующегося водяного фильтра, что делает посуду практически герметичной. А это, в свою очередь, позволяет варить продукты при температуре 70—75° С, сохраняя не только витамины и питательные элементы, но и внутримолекулярные связи, составляющие биоэнергетическую ценность пищи. Кипяченая вода труднее усваивается, чем "живая" в соках, фруктах, овощах или талая. Кстати, люди, просыпающиеся утром с отеками на лице, зря "ругают" воду, в избытке принятую накануне вечером. Виновата поваренная соль (в селедочке, огурчиках и проч.), одна молекула которой притягивает к себе 400 молекул воды, которую затем пьют, чтобы утолить искусственно вызванную жажду. Мы забываем, что человек — дитя природы, рано или поздно она не простит безобразного отношения к частице своего организма.

Но не будем о грустном. Примите рецепт одного вкусного и полезного салата. 3—4 средних яблока порежьте мелкими кусочками (без кожуры и косточек), проделайте то же самое с двумя луковицами такого же размера. Нарезанный лук дважды обдайте кипятком на дуршлаге и перемешайте его с одной ложкой майонеза. Добавьте приготовленные яблоки и две столовые ложки тертого на крупной терке сыра. Желаю приятного аппетита, а также здоровья и добра.

**Павел БОБРОВИЧ,**
**главный врач**
**минского оздоровительного комплекса "Мечта".**

## Чтобы курочка неслась...

Запомните: у хороших кур широко раздвинуты лонные кости, большой мягкий живот, а у плохих — лонные кости и конец киля грудной части сближены, живот жесткий и маленький. Кроме того, у хороших несушек более бледно окрашены части тела — клюв, ноги, ушные мочки и др.

Куры мясных и мясо-яичных пород должны иметь также очень хорошие мясные формы. При получении инкубационных яиц нельзя допускать их залеживания в гнездах. Поэтому осматривать гнезда племенных кур и выбирать из них яйца необходимо по возможности как можно чаще — по нескольку раз в день. Вынутые из гнезд яйца необходимо сразу поместить в сухое, чистое и прохладное место.

## Дед Мороз и мясо

Один из наиболее распространенных способов сохранения мяса — замораживание, т.е. содержание его там, где температура большую часть года опускается ниже нулевой отметки.

Услугами Деда Мороза пользуются повсеместно и весьма охотно. Зимой ощипанных и полупотрошенных (без кишок) птиц окунают в холодную воду, быстро вынимают, подвешивают и подмораживают на воздухе. Так делают 3—4 раза, пока поверхность тушки не покроется равномерной ледяной корочкой.

Замороженную птицу заворачивают в чистую бумагу, укладывают в плотный ящик, выстланный сеном, соломой, опилками, и хранят на холоде.

Существуют определенные правила замораживания и оттаивания мяса.

Температурные колебания ухудшают качество замороженного мяса. Чтобы этого не случилось, ящик устанавливают на деревянную подкладку, выстилают сухой соломой или опилками, покрывают чистой тканью, на которую и укладывают куски замороженного мяса. Сверху их накрывают тканью и присыпают соломой.

Мороженое мясо, как правило, оттаивают на воздухе, а не в воде. Мясо оттаивать лучше медленно, так как в этом случае мясной сок успевает впитаться в мышечные волокна. Мороженое мясо, оттаявшее при температуре 3—8 градусов тепла в течение 1—3 суток, в зависимости от вида и величины кусков, почти не отличается по вкусу от мяса охлажденного.

И уж очень оно вкусно! Попробуйте.

## Ваши просьбы — наши заботы

В нашу рубрику по-прежнему поступает много писем, адресованных В.Н.Ровному, врачу из г.п. Узда, о котором мы рассказывали в одном из выпусков. И у многих просьба: доехать до райцентра со своими радикулитами, остеохондрозами им тяжелее, чем до Минска. Не может ли В.Ровный принимать их в Минске?

Просьбы людей понятны. Мы передали их Владимиру Николаевичу. На днях он сообщил в редакцию следующее: первую и третью недели каждого месяца он сможет принимать больных в столице по адресу: **ул.Жуковского, 6, корп. 4 (в здании детсада)**. Тел. для справок в г.п. Узда: **(218) 55-630.**

❑

Подобные просьбы поступают в редакцию и к Г.Д.Лысенко по поводу "живой" и "мертвой" воды. Мы тоже связались с ним и получили вот такой ответ: "В связи с невозможностью ответить на каждое письмо приглашаю на мою лекцию-консультацию о "живой" и "мертвой" воде.

Она состоится 5 февраля по адресу: **г.Минск, ул.Фабрициуса, 5** (республиканский Дворец "Юнацтва"). Можно приобрести мою книжку "Живая и Мертвая вода".

Если будут заявки, останусь для индивидуального приема.

Кто не сможет прийти на лекцию, прошу обращаться с письмом: г. Слоним, ул. Доватора, 8а, кв. 46. Отвечу".

**Ведет рубрику Павел СТАСЕВИЧ. Тел. 68-25-56.**

Суботняе крэсла

## Колькі б валюты хлынула ў гарадскія бюджэты, калі б у нас увялі такія парадкі, як у Рызе

**Іван ГЕРАСЮК**

Сяджу. Думаю. Чаму гэта ў бюджэце нашай краіны грошай не хапае? Ні на культуру. Ні на навуку. Ні на медыцыну. Эксперты кажуць: "Узяць няма дзе".

Хоць бы ў суседзяў павучыліся. Колькі б гэта валюты хлынула ў гарадскія бюджэты, калі б у нас увялі такія парадкі, як у Рызе!

Стаю на прыпынку на вуліцы Камуністычнай, аўтобуса чакаю. Яшчэ чалавек дваццаць гуртуецца побач. Хто курыць, хто семкі лушчыць. У Рызе, напэўна, адразу штрафавальшчык з мясцовай адміністрацыі з'явіўся б. Кінуў запалку на тратуар — 5 долараў, плюнуў на зямлю — 10 долараў (за кожны раз), недакурак паляцеў міма сметніцы — 25 долараў, скамечаную паперу пакінуў — 50 долараў. Ну, а калі б ля камерцыйнага кіёска розныя скрынкі валяліся — 100 долараў і яшчэ па 100 праз кожную гадзіну, пакуль прыбрана не будзе.

Прайшоў я ўздоўж Камароўкі ды прыкінуў, колькі б я сёння зарабіў, калі б штрафальшчыкам быў. Плюнулі пры мне 131 раз, недакуркі кінулі 327 разоў, запалкі — 218, паперкі — 86, а камерцыйных кіёскаў, абкладзеных смеццем, — 37. 15 275 долараў штрафу за паўгадзіны толькі з аднаго боку рынка! З іх мне, паводле латвійскіх тарыфаў, належыць 40 працэнтаў — каля 700 долараў. Ды я на сваёй пасадзе столькі, можа, і за паўгода не зараблю. Шкада, што нашы заканадаўцы чужым вопытам не карыстаюцца. Сабраць з усіх гэтых долары, хто плюе налева-направа, дык і замежныя крэдыты не спатрэбяцца.

Праўда, у Рызе гарадскі бюджэт за гэты кошт папаўняецца не надта, бо там цяпер мала хто харкае на тратуар ці кідае недакуркі пад колы аўтобуса. У нас жа дзяржава абагацілася б. Ну, а калі б і не абагацілася, то хоць бы чыста было.

Вось так я сяджу ў крэсле і думаю. Сёння — субота.

